■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# Настаўніцкая справа працягваецца

**1 кастрычніка – Дзень настаўніка. Для мяне і маіх блізкіх гэта вялікае свята, паколькі ў нашай сям'і некалькі пакаленняў настаўнікаў. Пра іх і хацеў бы расказаць.**



Фота з сямейнага альбома.

**Петр Фёдаравіч і Марыя Іванаўна Давідовічы 45 год таму.**

Маці, Марыя Іванаўна, звычайная слуцкая дзяўчына, працавала спачатку на Мінскім камвольным камбінаце. А пасля паступіла на факультэт пачатковых класаў Мінскага педінстытута. Гэта было ў 1955 годзе. Там яна і пазнаёмілася з прыгожым мядзельскім хлопцам, які стаў яе спадарожнікам жыцця. Гэта мой бацька, Пётр Фёдаравіч. Разам у 1961 годзе яны прыехалі ў Маладзечна па размеркаванні.

Пасля маці працавала ў СШ №№8, 11. Шмат маленькіх дзетак называла яе мамай замест афіцыйнага "Марыя Іванаўна". Да людзей, якіх яна навучала быць добрымі і разумнымі, я прылічваю і сябе, паколькі яна была таксама маёй першай настаўніцай. Ды і спецыяльнасць настаўніка пасля абраў з-за яе цеплыні, дабрыні і духоўнай шчодрасці. Высока цаніла яе і адміністрацыя школ, неаднаразова ўзнагароджваючы граматамі, ганаровым званнем "Старэйшы настаўнік", медалём "Ветэран працы". Пасля, маючы двух дзяцей, яна скончыла завочна другі факультэт Мінскага педінстытута – філалагічны. І адначасова выкладала і ў пачатковых, і ў старэйшых класах.

Бацька, Пётр Фёдаравіч, працаваў спачатку ў школе–інтэрнаце, пасля – у Маладзечанскім медвучылішчы. Выкладаў матэматыку. Пасля – у ГПТВ-21, ПТВ-87 настаўнікам чарчэння. За гэтыя гады шмат вучняў хацелі быць падобнымі да яго дакладнасцю, карэктнасцю, ветлівасцю і дабрынёй. А мы з братам, гледзячы на яго, абралі будучай спецыяльнасцю фізіку і матэматыку.

Яго кабінет чарчэння ў ПТВ-87 займаў II месца на ВДНГ СССР. Таму былі і ўзнагароды: граматы, званне "Настаўнік-метадыст", медаль "Ветэран працы".

Цяпер пра сярэдняе звяно маёй сям'і. Мой брат Алег скончыў фізічны факультэт Мінскага педінстытута і працуе настаўнікам фізікі ў Маладзечанскай гімназіі. У інстытуце ён пазнаёміўся з будучай жонкай Валянцінай, якая цяпер працуе ў школе мастацтваў. Маюць дзвюх дочак – Вольгу і Анютку. А маладзейшыя настаўнікі ў маёй сям'і – гэта я і мая жонка Аксана, настаўніца пачатковых класаў СШ №5. Дачка Дар'я, здаецца, таксама аддасць перавагу прафесіі настаўніка, бо ўжо вельмі любіць хадзіць у школу з матуляй, хоча мець партфель і жадае вучыцца.

У гэты дзень, 1 кастрычніка, мы па традыцыі збярэмся ў бацькоў, каб павіншаваць іх, сваіх першых настаўнікаў. А мне хацелася б, каб наша настаўніцкая дынастыя працягвалася ў наступных пакаленнях. Таму жадаю ўсім сваім родзічам шчасця і здароўя.

**Алесь ДАВІДОВІЧ, Маладзечна.**

## Адкрыты рахунак

МЯДЗЕЛ. Маладой дзяўчыне Таццяне Крыштафовіч неабходна лячэнне ў Германіі. Першы курс ужо праведзены. Дапамагаюць немцы (там нават і дабрачынны гандбольны матч праводзілі з мэтай збору сродкаў), могуць дапамагчы і свае. Адкрыты рахунак у Мядзельскім аддзяленні Белбізнесбанка: 3014100001016, код 104. Дарэчы, першае ахвяраванне зрабіў аўтар "Рэгіянальнай газеты" Міхаіл Чарняўскі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Юныя пажарныя стануць рабінзонамі

МЯДЗЕЛ. У летніку "Зубраня" распачалася новая змена. Назва яе – творча–гульнявы праект "Рабінзанада". З дзецьмі будуць гуляць у рабінзонаў. А адпачывае тут цяпер шмат юных пажарных, ёсць і дзіцячая хакейная каманда, пераможца "Залатой шайбы".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Кінатэатр «Радзіма»

**Вялікая зала**

29 – 1 кастрычніка

**"Нявеста, якая збегла"**, ЗША, камедыя 13-00, 15-00, 19-00

**"Раптоўны ўдар"**. Чорны дракон 17-00, 21-00 ЗША, баявік

Кожную суботу і нядзелю – дыскатэка 17-00, 20-00

Працуе бар, камп'ютэрныя гульні.

■ ПАСЛЯ НАДРУКАВАНАГА

## Іншая тэма

У рэдакцыю пазваніў старшыня калгаса імя XXI з'езда КПСС Вілейскага раёна **Генадзь Кучко** і выказаў незадавальненне з-за публікацыі ў пазамінулым нумары газеты здымка на першай старонцы. Нагадаем, што там быў апублікаваны фотаздымак грузавога аўтамабіля, у адкрытай кабіне якога ляжаў чалавек, што відно было па падэшвах. Подпіс сведчыў: "Уборка бульбы. У калгасе імя XXI з"езда КПСС (Вілейскі раён) на мінулым тыдні." Газета, на думку старшыні, пакрыўдзіла калектыў калгаса, дзе, на "гэтым маленькім астраўку камунізма яшчэ нешта робіцца добрае". А "Рэгіянальная газета" паказвае, быццам у калгасе адны гультаі. У гаспадарцы пазналі вадзіцеля, ён перадавік, добра адпрацаваў на ўборачнай, а тут, магчыма, абед, ён прылёг адпачыць. Дык так і трэба было напісаць пра гэта. Калі не – то справядліва пакрыткаваць. Але ля фатаграфіі, акрамя таго, што напісана, больш не напісалі. Вадзіцель са слязьмі на вачах прыходзіў у праўленне калгаса і пытаўся: што ж гэта такое?

Прынцып нашай газеты – даваць факты. Як было і ў дадзеным выпадку. Што калгас – адзін з лепшых на Вілейшчыне, ведаем. Толькі мы не пісалі пра гэта, а проста далі замалёўку з калгаснага палетка, у час калі дакладна ўбіралася бульба. І прозвішча чалавека не давалі, бо пазнаць яго па падэшвах – справа вельмі цяжкая. Тым больш, што па прызнанні самага Генадзя Мечыслававіча, такіх аўтамабіляў у "XXI–м з"ездзе" некалькі. А пра тое, што ў калгасе ёсць добрыя працаўнікі, мы напішам. Але гэта будзе ўжо іншая тэма.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ, галоўны рэдактар «Рэгіянальнай газеты».**

■ ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

## У Куранцы – вялікі пажар

**М. Курэнец, Віленск. губ., Вілейск. пав.**

На гэтым тыдні выгарала часьць мястэчка, згарэло больш паўсотні дамоў; агонь уняўся толькі на трэйці дзень. Страты лічуць на тысячь сто. З перэпуду ад паляруша сэрца змёрлі двое – жыд і жыдоўка. Злажыўся камітэт што збірае падмогу пагарэлым.

**В.**

**Першая Беларуская Газэта з Рысункамі "Наша Ніва", №39 ад 23 вересня 1910 г.**

■ ВЫБАРЫ – 2000

# Візітная картка

## Акруга №61

**Тэрыторыя – Смаргонскі і Астравецкі раёны. Кандыдатаў у дэпутаты – 5, не зарэгістравана – 2. Аляксандра Банькоўскага і Рамуальда Улана не зарэгістравалі з прычыны таго, што частка подпісаў за іх вылучэнне прызнаная несапраўднай.**

| Прозвішча, імя, імя па бацьку | Дата нараджэння | Апошняе месца работы | Месца пражывання | Партыйнасць |
|---|---|---|---|---|
| Валерый Іванавіч Батурын | 13 лютага 1956 г. | Інжынер па ахове працы і тэхніцы бяспекі канцэрна "Проінтэкс ЛТД" | Смаргонь | Партыя камуністаў беларуская |
| Павел Валер'евіч Бурко | 13 красавіка 1972 г. | Менеджэр унітарнага раённага прадпрыемства "Азон" | Смаргонь | Ліберальна-дэмакратычная партыя |
| Ірына Зянонаўна Вештард | 17 сакавіка 1953 г. | Беспрацоўная, настаўніца хіміі | Смаргонь | Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя |
| Уладзімір Мікалаевіч Лігута | 15 сакавіка 1951 г. | Ваеннаслужачы, камандзір вайсковай часці 1259 | Смаргонь | Беспартыйны |
| Роберт Аляксандравіч Часнойць | 7 верасня 1954 г. | Начальнік упраўлення аховы здароўя Гродзенскага аблвыканкома, урач–лячэбнік | Гродна | Беспартыйны |

## Акруга №79

**Тэрыторыя – Вілейскі і Мядзельскі раёны. Кандыдатаў у дэпутаты – 8, не зарэгістравана – 0.**

| Прозвішча, імя, імя па бацьку | Дата нараджэння | Апошняе месца работы | Месца пражывання | Партыйнасць |
|---|---|---|---|---|
| Ігар Уладзіміравіч Баслык | 11 ліпеня 1962 г. | Дырэктар птушкафабрыкі "Зара камунізма" | в. Выгалавічы Мядзельскага раёна | Беспартыйны |
| Генадзь Дзмітрыевіч Захаранка | 27 ліпеня 1938 г. | Пенсіянер, кандыдат тэхнічных навук, старшы навуковы супрацоўнік | в. Рудня-Астравітая Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці | Ліберальна-дэмакратычная партыя |
| Канстанцін Віктаравіч Іваноў | 1969 г. | Дырэктар ЗАТ "БелТранс-Экспедыцыя" | Мінск | Беспартыйны |
| Віктар Тадэвушавіч Маліноўскі | 6 лістапада 1959 г. | Галоўны спецыяліст Міністэрства культуры РБ | Мінск | Камуністычная партыя Беларусі |
| Анатоль Мікалаевіч Маркевіч | 1 верасня 1959 г. | Старшыня калгаса "Чырвоны Кастрычнік" | Вілейка | Беспартыйны |
| Аляксандр Мікалаевіч Масеў | 29 мая 1966 г. | Сакратар ЦК грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз Айчына" | Мінск | Беспартыйны |
| Іосіф Іосіфавіч Маціюн | 1950 г. | Настаўнік гісторыі СШ №4 г. Вілейка | Вілейка | Партыя камуністаў беларуская |
| Пётр Міхайлавіч Юдо | 29 лістапада 1950 г. | Першы намеснік старшыні Вілейскага райвыканкома | Вілейка | Беспартыйны |

## Акруга №86

**Тэрыторыя – горад Маладзечна. Кандыдатаў у дэпутаты – 6, не зарэгістравана – 2. Аляксандру Лазоўскаму і Нелі Шлойдзе адмовілі ў рэгістрацыі з прычыны несвоечасовай падачы дакументаў.**

| Прозвішча, імя, імя па бацьку | Дата нараджэння | Апошняе месца работы | Месца пражывання | Партыйнасць |
|---|---|---|---|---|
| Станіслаў Мікалаевіч Гаварушкін | 25 ліпеня 1961 г. | Начальнік упраўлення аховы здароўя Мінскага аблвыканкома, урач-лячэбнік | Мінск | Беспартыйны |
| Аляксандр Уладзіміравіч Гайдукевіч | 9 лістапада 1958 г. | Пенсіянер МУС РБ, эканаміст | Мінск | Ліберальна-дэмакратычная партыя |
| Іван Мікітавіч Гураў | 7 снежня 1929 г. | Беспрацоўны, радыёінжынер | Мінск | Беспартыйны |
| Славамір Уладзіміравіч Зубрыцкі | 22 сакавіка 1957 г. | Галоўны дзяржінспектар Маладзечанскай міжраённай інспекцыі Камітэта па інспекцыі працы РБ, юрыст | Маладзечна | Беспартыйны |
| Пётр Васільевіч Капцёнак | 6 жніўня 1960 г. | Дырэктар ТАА "Энергаэфект", інжынер-цеплаэнергетык | Маладзечна | Беспартыйны |
| Антон Аляксеевіч Раманоўскі | 2 сакавіка 1940 г. | Прэзідэнт Беларускага Чырвонага Крыжа, урач, дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Мінск | Беспартыйны |

## Акруга №87

**Тэрыторыя – Маладзечанскі раён, Валожынскі раён разам з райцэнтрам (акрамя г. п. Івянец і Івянецкага сельсавета). Кандыдатаў у дэпутаты – 3, усе зарэгістраваныя**

| Прозвішча, імя, імя па бацьку | Дата нараджэння | Апошняе месца работы | Месца пражывання | Партыйнасць |
|---|---|---|---|---|
| Генадзь Іванавіч Божка | 7 кастрычніка 1954 г. | Старшыня калгаса "Яхімоўшчына" | в. Палачаны | Беспартыйны |
| Анатоль Якаўлевіч Казырыцкі | 27 красавіка 1955 г. | Генеральны дырэктар ТАА "Беларуская Будаўнічая фірма" | Мінск | Ліберальна-дэмакратычная партыя |
| Вячаслаў Францавіч Кебіч | 10 чэрвеня 1936 г. | Прэзідэнт Беларускага гандлёва-фінансавага саюза, дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Мінск | Беспартыйны |

# Месячнік пажарнай бяспекі

**З 1 кастрычніка па 1 лістапада ў Маладзечне і Маладзечанскім раёне праводзіцца месячнік пажарнай бяспекі. Нагадваем вам пра асцярожнасць пры абыходжанні з агнём і ўсімі прыборамі, небяспечнымі ў пажарных адносінах.**

З пачатку года ў Маладзечне і Маладзечанскім раёне адбылося 127 пажараў, на якіх загінула 8 чалавек, з якіх адно дзіця. Поўны ўрон ад пажараў склаў больш за 20 мільёнаў рублёў.

Самае страшнае, што агонь знішчае не толькі маёмасць, набытую за доўгія гады, але і забірае чалавечыя жыцці. Акрамя таго, вялікая колькасць людзей атрымлівае траўмы і апёкі з-за неасцярожнага абыходжання з агнём.

Асноўнымі прычынамі пажараў з'яўляюцца: неасцярожнае абыходжанне з агнём – 38 пажараў, парушэнне правілаў устройства і эксплуатацыі электраабсталявання – 32 пажары, няспраўнасць пячнога ацяплення – 23 пажары і інш. Насцярожвае павелічэнне пажараў, што адбыліся па прычыне дзіцячага свавольства з агнём. За 1999 год такіх пажараў адбылося 17, за сышоўшы перыяд 2000 года – ужо 16.

Пажарны аварыйна-выратавальны атрад настойліва просіць не пакідаць дзяцей без нагляду, не давяраць ім карыстання запалкамі, газам, электрапрыборамі.

Выконвайце ўсе правілы пажарнай бяспекі – і ваша бяспека будзе гарантаваная.

**Андрэй САДОЎСКІ, курсант камандна-інжынернага інстытута Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, сяржант унутранай службы.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 21 верасня | 28 верасня |
|---|---|---|
| Долар | 1025,00 руб. | **1032,00** руб. |
| Нямецкая марка | 444,07 руб. | **467,63** руб. |
| Літ | 256,22 руб. | **257,94** руб. |
| Расійскі рубель | 36,84 руб. | **37,10** руб. |
| Злоты | 222,75 руб. | **226,24** руб. |
| ЕЎРА | 868,53 руб. | **914,61** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1035 – 1050 руб. | **1040 – 1050** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 20.09 | 27.09 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1450 | **1450** |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 4620 | **4980** |
| Сасіскі, 1 кг | 1580 | **1575** |
| Селядзец, 1 кг | 950 | **950** |
| Рыс, 1 кг | 340 | **350** |
| Грэчка, 1 кг | 570 | **560** |
| Цукар, 1 кг | 450 | **475** |
| Алей, 1 л | 740 | **740** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 380 | **380** |
| Маянэз, 250 г | 160 | **150** |
| Кава "Пеле", 100 г | 950 | **950** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 310 | **310** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 350 | **350** |
| Лімоны, 1 кг | 950 | **930** |
| Апельсіны, 1 кг | 590 | **600** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 220 | **220** |
| Капуста, 1 кг | 100 | **100** |
| Кавун, 1 кг | 160 | **160** |
| Дыня, 1 кг | 450 | **450** |
| Вінаград, 1 кг | 900 | **900** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 600 | **700** |
| Масла, 1 кг | 1700 | **1700** |
| Тварог, 1 кг | 500 | **600** |
| Малако, 1,5 л | 250 | **250** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 600 | **600** |
| Бульба, малое вядро | 330 | **240** |
| Морква, 1 кг | 160 | **150** |
| Журавіны, малое вядро | 5000 | **5000** |
| Памідоры, 1 кг | 380 | **420** |
| Яблыкі, 1 кг | 250 | **200** |
| Грушы, 1 кг | 200 | **250** |

■ СПАЖЫВЕЦ

# Шчасце беларуса

## Бульба – другі хлеб і першае шчасце беларуса. Як шчасцем распарадзіцца?

Доўгажыхаром робіцца бульба сярэдніх або позніх гатункаў і тая, якую выкапалі ў пачатку верасня. Яна зможа захаваць таварны выгляд на працягу сямі, а то і дзевяці месяцаў, да пачатку лета. Але толькі ў добрых умовах. Клубні нельга з усяго размаху кідаць рыдлёўкай у вядро ці азлоблена вывальваць з вядра ў ракавіну. Пабітую бульбу захоўваць нельга. Дзе яе стукнулі, там і будзе далей гніць. Бітыя клубні можна пазнаць яшчэ да куплі – у іх адслойваецца скурка. Калі пабояў не было, бульбу ўсё адно трэба перабраць і выкінуць падгнілыя клубні. Здаровых і моцных чакаюць водныя працэдуры. Асабліва ахайныя гаспадары нават труць бульбу шчотачкай, бо на лупінах жывуць пабочныя споры, ад якіх ураджай хутка загнівае.



Клубень да клубня.

Фота IREX/Promedia

Потым клубні патрэбна высушыць – абавязкова ў цемры і ні ў якім выпадку не ў цеснаце, а то пакрыўдзяцца і загінуць. Наступны этап – "каранцін". Бульбу на пару тыдняў пакідаюць у спакоі, а потым зноў сартуюць. Хворыя клубні за гэты час зусім расхварэюцца і будуць бязлітасна выгнаныя. Здаровыя паспеюць нарасціць зімовую шкуру – цяпер іх можна закладваць на захоўванне. На дачы бульба зімуе ў сухім склепе, пры тэмпературы не вышэй за тры градусы цяпла. І абавязкова ў невялікіх драўляных скрынях – калі тленне кране адзін клубень, загінуць толькі яго блізкія. Можна захоўваць ураджай і ў земляных ямах – буртах. Бурты – лепшы спосаб захоўвання ад раскулачвання. Яны як скарб: акрамя гаспадароў, ніхто не знойдзе.

Гараджаніну больш, чым мяшок "другога хлеба", лепш не запасаць. Калі не згніе, дык пазелянее на святле. Пазелянелую ад гарадскога жыцця бульбу есці нельга, але і выкідваць таксама не варта: зялёныя клубні – лепшы матэрыял для вясенняй пасадкі. У сакавіку іх можна будзе выменяць у знаёмага дачніка на ядомыя, харчовыя.

### Ад усіх хвароб

Калі вы з'ядаеце сутачную норму варанай бульбы (300 грамаў на дзень) то поўнасцю забяспечваеце свой арганізм вугляводамі, каліем і фосфарам. У 100 грамах клубняў маладой бульбы ўтрымліваецца да 20 мг вітаміну С. Клятчатка бульбы не раздражняе слізістую страўніка і кішэчніка, вараную бульбу можна есці нават у перыяд абвастрэння гастрыту і язвы. Бульбяны крухмал зніжае ўтрыманне халестэрыну ў печані і сываратцы крыві, гэта значыць, валодае антысклератычнымі ўласцівасцямі.

### Парады

***Каб бульба не прарастала, яе трэба пакласці ў халоднае месца і накрыць шчыльнай тканінай, каб не пранікала святло. Інакш у ёй утворыцца саланін – рэчыва, шкоднае для чалавечага аргнізма.***

Свечкі з сырой бульбы дапамагаюць пры гемароі, а народная медыцына прапануе, калі баліць галава, прыкладваць да ілба скрылькі разрэзанай бульбы або піць бульбяны сок. Бульба ўтрымлівае шмат калію, які дапамагае выводзіць лішнюю ваду з арганізма (што важна для хворых на ныркі і аматараў выпіць). Калі закусваць спіртное бульбай, то раніцай не будзе асабліва ацёчнага выгляду. Калі закусвалі вустрыцамі, і ацёк з'явіўся, трэба пакласці на павекі кампрэсік з сырой бульбы – усё як рукой здыме. Але ўсё гэта магчыма, калі толькі ўмець бульбу захаваць.

### Дыханне – аснова жыцця

Нават разлучаныя з роднай зямлёй клубні павінны дыхаць. Прычым, у поўнай цемры. Таму выбар бульбы пачынаецца з мяшка. У паліэстравым яна задыхаецца, пацее і пачынае гніць. Капронавая сетка не ахоўвае ад святла. Клубні зелянеюць, у іх з'яўляецца яд саланін.

Ні кіпень, ні гарачая патэльня не могуць яго абясшкодзіць. Калі з'есці шмат зялёнай бульбы за адзін раз, атручванне гарантаванае.

***Бульбу, якая злёгку пераахаладзілася, трэба суткі патрымаць у цяпле, а потым захоўваць, як звычайна, пры тэмпературы не ніжэй за адзін градус цяпла.***

Сорт і нацыянальнасць бульбы на працягласць яе жыцця не ўплываюць. Са смакам – складаней.

Жаўтамясыя гатункі: рассыпістыя, падыходзяць для пюрэ.

Белыя і сіняватыя: крэпкія, для смажаніны і салатаў. Белая нашмат смачнейшая, чым жоўтая.

На лютым холадзе хутчэй за ўсё закачанее недаспелая бульба, тая, якую выкапалі раней тэрміну. Лупінне ў яе тонкае.

Разрэжце бульбу на дзве палавінкі і паспрабуйце склеіць. Трымаецца? Значыць, у гэтым клубні дастатковая колькасць крухмалу, сухіх рэчываў, амінакіслот. Вось спелы клубень.

Калі крухмалу ў бульбе мала, палавінкі склеяцца, але ненадоўга. А марожаны клубень наогул не склеіш: увесь крухмал у ім перайшоў у цукар. Марожаная бульба – як лёд ці як снег. Лёд жа адзін да аднаго вы не прыклеіце!

***Даведацца, ці не падмарожаная бульба, можна навобмацак. Падмарожаныя клубні вакол вочак мяккія. А ў цёплым памяшканні яны адразу пакрываюцца мокрымі плямамі.***

Морожанай робіцца бульбае, якая больш за суткі праляжала пры тэмпературы мінус 10°С. Для здароўя замерзлы караняплод не шкодны, але на смак салодкаваты і непрыемны.

Каб пазнаць падмарожаныя клубні, існуе шмат народных спосабаў:

– марожаную бульбу больш за пяць хвілін у руцэ не ўтрымаць: рука замярзае;

– сняжынкі на ёй не растаюць;

– марожаная на вуліцы грыміць, а ў цяпле робіцца мяккая і цячэ;

– марожаная бульба – як вата, як яблык без соку. І адразу робіцца мокрая.

Калі бульба праляжала на холадзе ўсяго некалькі гадзін, яна яшчэ не замерзла, а толькі пераахаладзілася. Яе яшчэ можна адагрэць дамашнім цяплом, але лепш у халаднаватым месцы, напрыклад, ля балконных дзвярэй.

Адмарожаную бульбу трэба трымаць на вуліцы. У пакой заносіць, як спатрэбіцца. І адразу класці ў ледзяную ваду. Праз паўгадзіны бульбу можна смажыць ці варыць. Салодкі прысмак амаль знікне.

Калі замарожанай бульбы аказалася вельмі шмат, з яе можна зрабіць крухмал. Клубні дзяруць на тарцы, заліваюць вадой, настойваюць. Затым ваду зліваюць, асадак працэджваюць і сушаць.

**Алесь ШЧАСНЫ.**

■ СПАЖЫВЕЦ

# Патрабуйце поўную інфармацыю пра тавар

МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю жыхар горада купіў у магазіне красоўкі. Калі ён прыйшоў дадому, заўважыў, што адна красоўка не мае таварнага выгляду: памятая, падраная і выпэцканая.

На наступны дзень спажывец прыйшоў у магазін з прэтэнзіяй. Ён хацеў замяніць красоўку. Прадавец сказала, што абутак стаяў паўгода на вітрыне як узор. Яго прымервалі, бралі ў рукі, таму абутак і сапсаваўся. Мяняць яго няма як, бо гэта была апошняя пара. Спажывец патрабаваў тады знізіць пакупную цану на 35 працэнтаў. Кампрамісу яны не знайшлі.

Сітуацыю каменціруе старшыня таварыства абароны спажыўцоў Уладзімір Клешч:

Прадавец парушыў артыкул 7 "Закона аб абароне праў спажыўцоў", бо спажывец не атрымаў своечасова поўную і дакладную інфармацыю аб тавары. Таксама парушаны артыкул 10 таго ж закона, бо прадавец не выканаў законныя патрабаванні спажыўца. Але суму кампенсацыі ўстанаўлівае экспертыза, лічба 35 працэнтаў не абгрунтаваная яе заключэннем.

У дадзеным выпадку застаецца пачакаць, што скажуць спецыялісты.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ПЕРШАЯ ЛІГА

# Рэванш адбыўся

**23.09 Орша – Маладзечна 0:2 (0:1)**

**Галы:** Тартоўскі (10), Дараховіч (75)

**Галоўны арбітр:** Віктар Мацюшаў (Мінск)

**Склад:** Рубацкі, Рагуновіч, Кабельскі, Бычкоўскі (Крывіцкі, 37), Сысой, Шаўроў, Багайчук, Вільтоўскі, Тартоўскі (Дараховіч, 61), Міхалёў, Сідарэнка (Вострыкаў, 55).

Папярэджанні ў складзе "Маладзечна": Багайчук, Рагуновіч.

Пасля нічыёй гэтых каманд у першым крузе, выезд маладзечанцаў у Оршу чакаўся з доляй небяспекі. Але ўсё скончылася добра: ужо ў дэбюце сустрэчы Тартоўскі адкрыў лік. Перавагу павялічыў Дараховіч, для якога гэты гол стаў першым на такім ўзроўні. Паказальна, што ён замяніў якраз аўтара першага гола.

Узяў рэванш за паражэнне ў першым крузе ад "Кераміка" (1:2) і "Лунінец". Яго перамога стала "валявой", бо падапечным Якава Шапіры давялося адыгрывацца па ходзе матча. З задачай яны справіліся, за 5 хвілін да канца гульні забілі пераможны мяч.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

Керамік – Лунінец 1:2, Нёман – Зорка-ВА-БДУ 0:1, Граніт – Тарпеда 4:1, Хімік – Рагачоў-ДЮСШ-1 4:0, Палессе – Трактар 0:3, ЗЛіН – Свіслач-Дах 1:0, Вейна-Днепр – Дынама-Юні 1:2.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Маладзечна | 23 | 17 | 4 | 2 | 56-11 | 55 |
| 2. | Лунінец | 23 | 16 | 4 | 3 | 42-11 | 52 |
| 3. | Граніт | 23 | 15 | 1 | 7 | 40-29 | 46 |
| 4. | Нёман | 23 | 12 | 4 | 7 | 40-25 | 40 |
| 5. | Свіслач-Дах | 23 | 12 | 2 | 9 | 33-29 | 38 |
| 6. | Тарпеда | 23 | 11 | 5 | 7 | 37-28 | 38 |
| 7. | Керамік | 23 | 11 | 4 | 8 | 47-32 | 37 |
| 8. | Зорка-ВА-БДУ | 23 | 10 | 6 | 7 | 36-28 | 36 |
| 9. | Орша | 23 | 10 | 6 | 7 | 35-27 | 36 |
| 10. | Рагачоў-ДЮСШ-1 | 23 | 8 | 9 | 6 | 34-29 | 33 |
| 11. | Дынама-Юні | 23 | 9 | 3 | 11 | 38-39 | 30 |
| 12. | Трактар | 23 | 7 | 4 | 12 | 30-36 | 25 |
| 13. | ЗЛіН | 23 | 6 | 6 | 11 | 15-20 | 24 |
| 14. | Хімік | 23 | 5 | 7 | 11 | 30-37 | 22 |
| 15. | Вейна-Днепр | 23 | 1 | 2 | 20 | 16-67 | 5 |
| 16. | Палессе | 23 | 0 | 1 | 22 | 12-92 | 1 |

**Бамбардзіры**: Вадз. Байко – 14 (Керамік); Таран (Тарпеда) – 13; Курыловіч (Керамік), Правалінскі (Орша) – па 12; Яцыновіч (Рагачоў), Цыгалка (Дынама-Юні) – па 11; **Турчыновіч**, Кірылка (Граніт), Грыгор'еў (Хімік) – па 9.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АЛІМПІЯДА

## Васіль Капцюх паказаў свой найлепшы вынік і заняў чацвертае месца

Падчас кваліфікацыйнага адбору кідальнікаў дыска ў нядзелю наш зямляк меў чацверты паказчык – 65 метраў 90 сантыметраў. У паўфінале дванаццаць фіналістаў пачыналі з нуля. Аднак у выніку ва ўраджэнца Маладзечна аказалася зноў тая самая крыўдная пазіцыя адразу ўслед за тройкай медалістаў. Пры гэтым **Васіль Капцюх** устанавіў свой асабісты рэкорд – 67,59.

Лепшыя ж былі літовец **Віргіліус Алекна** (69,30), немец **Ларс Рыдэль** (68,50) і паўднёваафрыканец **Франц Кругер** (68,19). Беларус **Уладзімір Дуброўшчык** (серабро Атланты) стаў толькі сёмым (65,13). Яшчэ адзін наш спартсмен **Леанід Чараўко** не прайшоў кваліфікацыю, бо занадта саступіў свайму дамашняму выніку, які дазволіў яму пры нацыянальным адборы апярэдзіць ураджэнца Смаргоні **Аляксандра Малашэвіча**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

### На гэтым тыдні гуляюць

**30.09 Хемікс (Мінск) – Металург**
**30.09 16-00 Маладзечна – ЗЛіН (Гомель)**
+1=0-0 2-0. У першым крузе 2:0 (Лукін, Тартоўскі) на выездзе
**01.10 16-00 Смаргонь – Водаканал-Транзіт (Брэст)**
**02.10** 1/8 Кубка **Славія (Мазыр) – Забудова**
**04.10 Вертыкаль (Калінкавічы) – Смаргонь**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

## Стартуе чэмпіянат краіны

Нацыянальная зборная краіны з **Ігарам Кіркіжам, Дзмітрыем Янелем, Сяргеем Кузняцовым** і **Дзмітрыем Агейчыкам** у складзе выязджала на таварыскія матчы на Украіну. Другой зборнай гаспадароў саступілі 0:2, клуб "Уніспорт-Будстар" перамаглі 3:1 (вызначыўся Янель) і першай зборнай прайгралі 1:3.

Прапануем каляндар першага круга чэмпіянату краіны, старт у якім маладзечанцам давядзецца браць ужо ў суботу.

30.09 Хемікс (Мінск) – Металург
07.10 Металург – Верас (Нясвіж)
15.10 Беліндзяржстрах-БДПА (Мінск) – М
21.10 М – Белаўтасервіс (Навапалацк)
28.10 ЦКК (Светлагорск) – Металург
05.11 РТІ-Заслаўе – Металург
12.11 Металург – Энергетык (Орша)
19.11 Мінскэнергаспецрамонт – М
26.11 Металург – Віцязь (Віцебск)
02.12 Сімург (Мінск) – Металург
10.12 Металург – МАПІД (Мінск)
16.12 Гарняк (Салігорск) – Металург
24.12 Металург – Дарожнік (Фаніпаль)

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛПРАГНОЗ

## «РГ» пачынае 3-і чэмпіянат па футболпрагнозе (ФП) сярод балельшчыкаў

**ФП – гульня па перапісцы, заснаваная на прагназаванні футбольных матчаў. Гэта чэмпіянаты Беларусі, Расіі, Англіі, Францыі, Іспаніі, Германіі, Італіі, адборачныя матчы да чэмпіянату свету. У ФП перамагае той, хто адгадае больш зыходаў, чым сапернік. Падман выключаны, бо ўсе прагнозы ўдзельнікі атрымліваюць да пачатку рэальных матчаў.**

Першы чэмпіянат па ФП прайшоў мінулым летам. 36 каманд на першым этапе былі разбітыя на 6 груп. Пасля матчаў у 1 круг у наступную стадыю (плэй–оф) выйшла 16 каманд. Яны па кубкавай сістэме выявілі пераможцу.

У фінале сустракаліся маладзечанцы: 12–гадовы **Андрэй Мельнічэнка** (САШМ) і 36–гадовы **Сяргей Тумакоў** (Метрашток) – 0:1 перамог досвед. "Бронзу" падзялілі маладзечанцы **Дзмітрый Бабровіч** (Гётэборг) і **Сяргей Ярук** (ФПК Кобра).

У другім чэмпіянаце, што распачаўся на пачатку года, узялі ўдзел 44 каманды, разбітыя на 11 груп.

Пасля двухкругавога турніру пераможцы груп выйшлі ў 1/8 фіналу адразу, а 10 з 11 каманд, якія занялі другія месцы, аспрэчвалі яшчэ 5 пуцёвак у "накаўт–раўндзе".

У фінале зноў сустрэліся маладзечанцы: 15–гадовы **Яўген Дзюндзін** (Спартак–Д) перамог Сяргея Ярука (ФК Рэал) – 2:0. Трэцяе месца дасталося 16–гадаваму **Аляксандру Кучэрыну** (ФК МБГ–РОКІ) і 24–гадоваму **Валерыю Грабоўскаму** (Грын/Уайт Хартс). Яны таксама з Маладзечна.

Для таго, каб трапіць у лік удзельнікаў трэцяга чэмпіянату па ФП, дастаткова запоўніць купон удзелу і выслаць яго на адрас рэдакцыі "РГ". Колькасць каманд не абмежаваная, але на адзін купон можна заявіць толькі адну каманду.

Запрашаем балельшчыкаў з Мядзела, Астраўца і Ашмянаў (адсюль не было заявак) далучыцца да нашай гульні.

Купон мы будзем публікаваць яшчэ некалькі разоў. Да 25 верасня можна заявіцца і на 5-ы чэмпіянат Маладзечанскай Лігі Футболпрагнозу. Для гэтага прышліце ў рэдакцыю ліст і канверт з адваротным адрасам.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Турнір «РГ»

Прозвішча, імя ..............................................

Дамашні адрас ..............................................

Дата нараджэння .................... Тэлефон ....................

Назва вашай каманды ..............................................

■ ДРУГАЯ ЛІГА

# Шанцуе мацнейшаму. Цяпер смаргонцаў чакаюць 8 матчаў за 29 дзён

Супалі так, як трэба нашым землякам, вынікі трох матчаў апошняга тура. Перамога "РШВСМ-Алімпіі" над "Старымі Дарогамі" была буйной і нескладанай, а вось у Глыбокім гаспадары адкрылі лік напачатку другога тайма і ў глыбіні душы, магчыма, віншавалі сябе з другім месцам у групе, аднак за хвіліну да заканчэння сустрэчы госці забілі гол, які абярнуўся катастрофай для "Азерцаў".

Пры такіх абставінах перамога смаргонцаў у Нясвіжы прывяла да падліку асабістых сустрэч паміж трыма камандамі, якія набралі па 35 ачкоў і прэтэндавалі на дзве пуцёўкі ў фінальны этап. Вось што атрымалася:

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | РШВСМ-Алімпія | ## | 1:0 | 3:0 | 2 | 1 | 1 | 5-1 | 7 |
| 2. | Смаргонь | 1:0 | ## | 4:2 | 2 | 0 | 2 | 5-7 | 6 |
| 3. | Азерцы | 0:0 | 3:0 | ## | 1 | 1 | 2 | 5-7 | 4 |

Аднак для таго, каб усё так шчасліва завяршылася, смаргонцы павінны былі выйграваць у "Вераса", не ведаючы на працягу матча аб перыпетыях іншых паядынкаў. Каманда згуляла дакладна ад абароны. Увогуле сустрэча была роўная, але, разам з тым, можна сказаць, што канчатковы лік па гульні. Пераможны гол з пенальці забіў лепшы бамбардзір каманды **Андрэй Селіванаў**. Ён сам і зарабіў яго, калі ўвайшоў у штрафную злева, дзе быў збіты. Па дзеяннях гаспадароў адчувалася, што яны не жадаюць саступаць, імкнуліся выратаваць гульню з дапамогай шматлікіх замен, у другім тайме перахапілі ініцыятыву, але па галявых момантах не пераўзышлі нашых хлопцаў, у складзе якіх маглі вызначыцца падчас контратак **Вячаслаў Шпакоўскі** і **Сяргей Карабінскі** (ён прабіў у перакладзіну).

У табліцы даем вынікі ўсіх матчаў нашых землякоў (першы слупок – дамашнія сустрэчы, другі – выязныя).

| | | "Смарг." | | "Забуд." | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Дарыда | 1:0 | 0:3 | 1:2 | 1:2 | 22 | 16 | 1 | 5 | 42-23 | 49 |
| 2. | Акадэм-Славія | 1:3 | 0:0 | 0:2 | 2:1 | 22 | 10 | 6 | 6 | 30-19 | 36 |
| 3. | РШВСМ-Алімпія | 1:0 | 0:1 | 2:2 | 5:1 | 22 | 10 | 5 | 7 | 38-26 | 35 |
| 4. | Смаргонь | ##### | | 0:1 | 1:2 | 22 | 10 | 5 | 7 | 28-23 | 35 |
| 5. | Азерцы | 4:2 | 0:3 | 1:2 | 0:1 | 22 | 10 | 5 | 7 | 37-36 | 35 |
| 6. | Старыя Дарогі | 0:0 | 1:2 | 4:1 | 1:3 | 22 | 10 | 2 | 10 | 30-32 | 32 |
| 7. | Лакаматыў | 4:0 | 2:2 | 2:2 | 3:1 | 22 | 9 | 5 | 8 | 35-37 | 32 |
| 8. | Верас | 1:1 | 1:0 | 0:1 | 1:2 | 22 | 9 | 3 | 10 | 24-29 | 30 |
| 9. | РВАР | 1:0 | 0:2 | 1:2 | 1:1 | 22 | 8 | 4 | 10 | 31-32 | 28 |
| 10. | Дынама-2 | 2:0 | 1:2 | 0:2 | 1:2 | 22 | 8 | 3 | 11 | 31-38 | 27 |
| 11. | Забудова | 2:1 | 1:0 | ##### | | 22 | 5 | 3 | 14 | 29-35 | 18 |
| 12. | Арбіта | 5:1 | 0:0 | 1:2 | 1:0 | 22 | 4 | 4 | 14 | 20-45 | 16 |

**Бамбардзіры**: Карасёў (Лакаматыў) – 12; Бяганскі (РВАР), Шэўчык – па 10; **Селіванаў** і іншыя – па 9.

Такім чынам, у звышшчыльнай барацьбе на фінішы турніра, смаргонцам вельмі пашчасціла апынуцца на чацвертым месцы і працягнуць барацьбу за выхад у першую лігу. Напэўна, той выпадак, калі шанцуе мацнейшаму.

Прапануем чытачам табліцу перад пачаткам фінальнага этапа, а таксама каляндар матчаў "Смаргоні". Чакаецца складанейшы кастрычнік: усім камандам давядзецца правесці па 8 матчаў за 29 дзён.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Дарыда | 6 | 5 | 0 | 1 | 13-5 | 15 |
| 2. | Мазыр | 6 | 4 | 1 | 1 | 9-5 | 13 |
| 3. | Водаканал-Транзіт | 6 | 3 | 0 | 3 | 5-7 | 9 |
| 4. | Баранавічы | 6 | 2 | 1 | 3 | 5-5 | 7 |
| 5. | РШВСМ-Алімпія | 6 | 2 | 1 | 3 | 6-7 | 7 |
| 6. | Смаргонь | 6 | 2 | 1 | 3 | 3-7 | 7 |
| 7. | Вертыкаль | 6 | 1 | 2 | 3 | 7-9 | 5 |
| 8. | Акадэм-Славія | 6 | 1 | 2 | 3 | 7-10 | 5 |

01.10 С – Водаканал-Транзіт (Брэст) 18.10
04.10 Вертыкаль (Калінкавічы) – С 22.10
08.10 Смаргонь – Баранавічы 26.10
14.10 Мазыр – Смаргонь 29.10

У першую лігу трапяць дзве першыя каманды. Калі гэта будуць цяперашнія фарм-клубы "Мазыр" і "РШВСМ-Алімпія", дык выканком БФФ прыме дадатковае рашэнне. Шчыра кажучы, незразумела, што тут дадаткова рашаць. Няма нідзе такой практыкі, каб наверх пераходзілі фарм-клубы, якія могуць заяўляць на гульні футбалістаў з больш моцнай каманды.

Шанцы нашых землякоў выглядаюць вельмі аптымістычна.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА

**Забудова – РВАР. Нягледзячы на тое, што сапернік аказаўся на зямлі, Мікалай Татун (справа) і яго каманда пацярпелі паражэнне.**

Лічыцца (а цяпер будзе праверана ў сапраўднасці), што на галаву мацнейшыя каманды якраз нашай папярэдняй групы, дзе шмат прадстаўнікоў сталіцы. Магчыма, смаргонцам цяпер будзе нескладана перамагчы ва ўсіх сустрэчах, аднак такое наўрад ці адбудзецца. Трэба ўлічваць і тэорыю верагоднасці, і невялікія перапынкі паміж гульнямі, і нармальнае жаданне некага з сапернікаў даць бой у асобным канкрэтным матчы. Добра, што самыя сур'ёзныя канкурэнты ў спрэчцы за другое месца (першае не павінна аддаць "Дарыда") маюць фармклубаўскі статус. Бадай, асноўным сапернікам стане "Акадэм-Славія". У асабістых сустрэчах у мінчан перавага, так што нашым лепш у кастрычніку ачкоў не губляць.

Заканамернае пытанне, ці маюць спартыўныя амбіцыі смаргонскага клуба на выхад у першую лігу пад сабою матэрыяльны фундамент. Прэзідэнт ФК "Смаргоні", дырэктар СКЗ **Міхаіл Чуковіч** ставіць сваім падначаленым адназначную задачу змагацца з усіх сілаў за другое месца ў фінальнай пульцы. Пры гэтым разумее, што выступленне на больш высокім узроўні запатрабуе і мадэрнізацыі стадыёна, і большых расходаў як непасрэдна на ўдзел, так і на выплаты гульцам.

**24.09 Верас (Нясвіж) – Смаргонь 0:1 (0:1)**

**Галы**: Селіванаў (25-пен).

**Склад**: Пясецкі, Іваноў, Шагойка, Курак, Юркевіч, Ал. Канапелька (Шпакоўскі, 46), Дукса, Чарнуха (Шаблінскі, 89), Якубіцкі, Селіванаў (Карабінскі, 65), Відук.

**24.09 Забудова – Арбіта (Мінск) 1:2 (1:1)**

**Галы**: Млечка (61); (5), (63).

**Склад**: Мароз, Нядзелька (Садчанка, 46), Муравейнікаў, Гулевіч, Івашкевіч, Лявончык, Татун (Рыгаровіч, 38), Касцюкевіч (Мятліцкі, 51), Дараховіч, Макрыцкі, Млечка (Антановіч, 64).

РШВСМ-Алімпія – Старыя Дарогі 3:0, Азерцы – Дынама-2 1:1, Лакаматыў – РВАР 2:0, Акадэм-Славія – Дарыда 1:3.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

